# БЮЛЕТЭНЬ

## Соймавага Клюбу „Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада“

№ 3 | Вільня, Субота 12 сьнежня 1925 году. | № 3


**№ 2 Бюлетэню Соймавага Клюбу „Белар. Сялянск.-Работн. Грамады“ з 4. XII. 25. году быў скафіскаваны Камісарам Ураду на места Вільню п. Вімборам за прыведзеныя ў інтэрпэляцыі № 6 газэтныя артыкулы „Новы замах на Базыльянскія муры“, „Хто мы такія“, „Прысуд сьмерці апошняй беларускай школе“ і „Апэляцыі украінцау да сусьеетнае апініі“, за якія—артыкулы—у свой час былі сканфіскаваны № № 14 і 12 газэты „Жыцьцё Беларуса“**

# Прамова

**дэпутата Валошына з Соймавага Клюбу Беларускай Сялянска - Работніцкай Грамады на паседжанькі Сойму 25. XI 1925. году ў часе дыскусыі над Экспозэ Прэмьер - Міністра Скшыньскага** (подлуг стэнаграмы).

Высокая Палата! „Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада“ ня мае да цяперашняга Ураду, Ураду нацыяналістычнай коаліцыі „хіены“ з лжесоцыялістычнаю П. П. С. і „дойлідаўскім“ Пястам — абсалютна ніякіх ілюзіяў.

Коаліцыйны урад п. Скшыньскага зьяўляецца выражэньнем сталага пагоршаньня, як унутранай, так і міжнароднай сітуацыі Польскае Дзяржавы, якая, што раз, то выразьней робіпца камісіянэрам і выканаўцам загадаў заходніх капіталістычных потэнцыяў.

Сам п. граф Скшыньскі зьяўляецца вучнем старой аўстрыйскай дыплёматычнай школы і, ня гледзячы на аслаўлены свой „дэмакратызм“, даскапала патрапіць вясьці ў адносіных да ўцісьненых Польшчай народаў практыкаваную старою Аўстрыяй мэтоду „Divide et impera“. Доказам гэтага зьяўляецца яго палітыка ўцягаваньня ў арбіту ураду —буржуазнага Жыдоўскага Клюбу, з якім напярэдадні ўрад братоў Грабскіх зрабіў гэтак аслаўлены саюз, імкнучыся такім чынам аблягчыць сабе справу ўціску тэрыторыяльных славянскіх гэт. зв. меншасьцяў, якія ніколі з польскаю перамогаю не пагодзяцца.

На загранічным форуме гэты ўрад будзе прадаўжаць вуснамі п. Скшыньскага палітыку аўторэклямы, васлаўленьня польскай „толеранцыі“ і будзе рабіць у Лізе Народаў ніколі не датрыманыя абяцанкі аб школьніцтве з матчынай мовай для беларускага і ўкраінскага народу. Прыпомнім сабе хоцьбы аслаўленую абяцанку п. Скшыньскага ўтварэньня ў Польшчы украінскага ўнівэрсытэту, зробленую ў мінулым годзе на сэсіі Лігі Народаў у Жэневе.

Гэтай жэнеўскай абяцанцы таварашыла тут— у краі—найцынічнейшае патаптаньне элэмэнтарнага права народаў, права ўжываньня роднай мовы. Гэтага права народы—беларускі і украінскі—пад польскаю ўладаю—ня маюць.

І ці маглі-бы мы мець ілюзіі аб тым, што што-небудзь палепшыцца для нас, калі п. Скшыньскі справу асьветы ў сваім габінэце паверыў гэтак заслужанаму ў справе ўціску і дэнацыяналізацыі Беларусаў і Украінцаў, п. Станіславу Грабскаму, галоўному ідэолёгу польскага імпэрыялізму, які — не сумляваемся ані на хвілінку — будзе і надалей палітычным рэжысёрам гэтага габінэту.

Пры ясна вызначанай нацыяналістычна-імпэрыялістычнай лініі, прадстаўніком якой зьяўляецца ех-сацыяліст і былы павадыр П. П. С., — чым, як не дэкарацыяй робіцца ўдзел у гэтым урадзе цяперашніх павадыроў П. П. С., таксама ех-сацыялістаў: Марачэўскага і Земэнцкага.

Уходзячы ў урадавы блёк з Хіена-Пястам, П. П. С., ці іначай польскія лжэ-сацыялісты, гэтым самым пераняlі лінію польскай рэакцыі ў адносінах да нацыянальнасьцяў, паняволеных Польшчай. Прызнацца ўрэшце трэба, што і перад гэтым ніколі П. П. С.‘ы ад гэтай лініі ня былі вельмі далёкімі. Бо эндэкі кіраваліся засадамі яўна грабежназаборчымі, а П. П. С. маскавала свой заборчы апэтыт у адносінах да нашых зямель фэдэральным зваротам. А фактычна П. П. С. была варта Н. Д. і наадварот. Варты Пац палаца і палац Паца. Доказам гэтага—хоць-бы прапазыцыя пасла Марыяна Маліноўскага і 31 пасла з П. П. С., паданая 10 траўня 1921 году ў уставадаўчым яшчэ Сойме, дзе гэтыя паны дамагаюцца распачацьця безадкладнай колёнізацыі гэт. зв. „Усходніх Крэсаў“. Доказам гэтага — крывадушная нібы прыязная дзейнасьць П. П. С. у адносінах да беларускага і украінскага народу, з якіх П. П. С. хоча зрабіць „форпошты“ проці Саюзу Сацыялістычных Радавых Рэспублік, міма таго, што іменна там, у рамах гэтага Саюзу, нашыя народы маюць поўную свабоду і творыць уласныя радавыя рэспублікі—беларускую і украінскую.

Ня гледзячы, значыць, на ўдзел у урадзе П. П. С., — ня маем ніякога сумліву аб тым, што ўва ўсіх напрамках, а пераважна ў гэтак важнай галіне, як асьвета, трываць будзе з поўным спакоем ранейшая палітыка, ідучая на лініі вынішчэньня, дэнацыяналізацыі і ашуканчай полёнізацыі. Бо не магчыма іначай назваць гэтай сыстэмы, якая запанавала на гэт. зв. „Ускодніх Крэсах“, ці іначай на землях Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, знаходзячыхся пад Польшчай, — як сыстэмай ашуканскай полёнізацыі. Бо калі гучна ўхваляюцца языковыя законы для г. зв. меншасьцяў, рэкламуюцца яны на заграаічным форуме, як „доказ ніколі ня гаснуўшай польскай толеранцыі“ і г. д. і г. д.,—а адначасна замыкаюцца літэральна ўсе беларускія школы,—у ліку шасьцідзесяці сямі, —то гэта ёсьць крывавае ашуканства і насьмешка, разьлічаныя на наіўнасьць і легкавернасьць беларускага народу і заходняй думкі.

Польская Буржуазія і польскі ўрад ня меў адвагі вясьці сваю полёнізацыйную палітыку адкрыта, і тaму ўхвалілі тут, у Сойме, аслаўленыя ліпенёвыя ўставы і пад іх прыкрыцьцем прадаўжаюць сваю нялюдзкую работу.

Сцьвярджаем, што — на падставе тых ашуканскіх уставаў, ані адна беларуская школа ня была адчынена, хоць беларуская люднасьць, сярод вельмі няспрыяючых абставінаў паміма ўсялякай контр-агітацыі і тэрору адміністрацыйнае ўлады і польскіх нацыяналістаў—злажыла ў працягу $1^1/_2$ мес. 15.000 дэкляарацыяў на 412 пачатковых школ, 19 дзяржаўных беларускіх школ зачынена, замяняючы іх утраквістычнымі.

Моладзі, што кончыла беларускія гімназіі, не прызнаюцца правы матурыстаў. Параграф вайсковага ўставу, прызнаючы права да адсрочкі службы ў войску для вучашчайся моладзі, у адносінах да беларусаў не прызнаецца: беларусаў— васьмікласьнікаў забіраюць з школьнае лавы; пакуюць на два гады ў полк далёка ад роднае старонкі, загубляючы яму такім чынам навуку і ломячы яму гэтым жыцьцё.

Польская буржуазія вельмі любіць паклікавацца на вэрсальскі трактат і ўпіраецца, што няўхільна стаіць на яго груньце; не перашкаджае, аднак, ей гэта паступаць насупроць гэтаму трактату, — там, дзе хочуць цагвалціць нацыянальныя правы беларусаў і украінцаў. Гэтак сама прадстаўляецца справа з Канстытуцыяй і іншымі гэт. зв. уставамі аб вольнасьці.

І вось, насупроць усім гэтым пекным актам, забавязаньням і абяцанкам—п. Ст. Грабскі, ідэолёг вэрсальскай польскай буржуазіі, увеў абавязкавае вучэньне польскае мовы, гісторыі Польшчы, гэографіі Польшчы, вучэньня аб сучаснай Польшчы, і дамагаецца, пад пагрозай зачыненьня нашых гімназіяў, выкладаньня агульнае гісторыі і агульнае гэографіі папольску.

Ужо цэлы год ляжыць у Міністэрстве статут Т-ва Беларускае Школы, якога не зацьвярджаюць, каб унемагчыміць разьвіцьцё прыватнага беларускага школьніцтва.

Па насьледзтву ад ураду Грабскага цяперашні Урад Хіена-Пястоўска-Пэпээсаўскай Коаліцыі дастаў яшчэ іншага міністра, а іменна „Крэсовага“ міністра ўнутраных спраў, — п. Рачкевіча. Хіба ніколі — нават за часоў Ратайскага, хваля рэпрэсіяў і правакацыі, белага тэрору і зьдзекаў—бічаваньняў не дасягала гэтакай вышыні на землях Заходняе Беларусі, як у часе ўрадаваньня гэтага міністра.

Концэнтрацыйныя абозы для палітычных вязьняў у Беластоку, Бельску, Ляндварове і Маладзечыне і трагічныя зьявішчы зьдзекаў, біцьця пры дапросе і мук, робленых тым людзям у часе „badania“ іх палітычнымі выродкамі — дэгэнэратамі — ўсё гэта пераходзіць ужо ўсялякую людзкую меру і выклікае новыя галасы пратэсту загранiцай. У апошніх часох дайшоў да нас, напрыклад, палымянны пратэст бэльгійскіх вольнадумных арганізацыяў, выражаючы свае абурэньне з прычыны расшырыўшагася пераважна ў Заходняй Беларусі польскага тэрору.

У Заходняй Беларусі той толькі, можа, не арыштоўваецца, хто нічога ня чытае і нідзе нічога не гаворыць. А тыя, што сьмеюць чытаць беларускія газэты, або публічна гутарыць пабеларуску, тыя ня пэўны за сваю асабістую вольнасьць, нават жыцьцё. Чалавека, усаджанага ў вастрог, калі нават і не закатуюць на сьмерць, то замораць голадам. Бо-ж знаны, што—раз, то-часьцейшыя факты адмовы ў прыняцьці ежы, якую радня прыносіць вязьням.

У гэтай галіне — наперад пераконаны мы,—. што ўсё пойдзе пастарому,— вырабленым шляхам Гвалты і рэпрэсіі будуць прадаўжацца і патураць ім будзе п. Рачкевіч, апіраючыся на Хіена-Пяста і П. П. С., якія сілаю рэчы возьмуць на сабе за ўсё гэтае адказнасьць!

А чаго можам спадзявацца ад новага міністра вастрожніцтва — хрысьціянскага дэмакрата п Пехоўскага?

Ці можам спадзявацца, што п. Пехоўскі будзе кіравацца ў свaей дзейнасьці хоць найскрамнейшымі, найэлемэнтарнейшымі засадамі хрысьціянізму ці дэмократыі? Ці захоча падбаць гэты хрысьціянскі дэмакрат аб тым, каб у падлягаючых яму 345 вастрогах Польскае Рэспублікі—абавязвала галоўная запаведзь хрысьціянізму: не забі, або хоць не катуй, ня зьдзекуйся; а ў судах найэлемэнтарнейшыя вымаганьні дэмакратыі: не садзі на 4 гады ў катаргу за шчырае слово сялян ці работнікаў.

Не сумляваемся, што не! I ведаем, што іменна ўгрупаваньне п. Пехоўскага вяло найзаядлейшае ганеньне на вязьняў—змагароў за сялянска-работніцкую справу.

Таксама ў галіне зямельных справаў і рэформаў ня можам спадзявацца ніякіх перамен ранейшай палітыкі калёнізаваньня нашых зямель, дзе люднасьць цярпіць страшэнны зямельны голад і агульны недастатак; а сотні асаднікаў — Мурашкаў з цэнтру Польшчы атрымоўваюць багатыя надзелы. З якога элемэнту бяруцца гэтыя асаднікі, як вайсковыя, так і цывільныя, аб тым добра ведае спакойная беларуская люднасьць, якая на кожным шагу адчувае на сабе іх праступную ролю. Не далей, як некалькі дзён таму назад—15 лістапада—ў в. Максімаўка, Радашкаўскае гм. Вялейскага пав. адзін з гэтакіх паноў забіў некалькі беларусаў пры помачы ручной гранаты. Цяперашні Урад і далей будзе вясьці сваю зямельную палітыку пад дэвізам: „Зямля для багатыроў і вайсковых асаднікаў“ — а беларускага і украінскага селяніна, таксама, як і беднага селяніна польскага будзе душыць падаткамі і ашуківаць мыльнымі пузырамі аб зямельнай рэформе.

А ў найважнейшай галіне, у галіне падаткаў —ці магчымы якія-небудзь фактычныя перамены? Ці цяперашні ўрад прадставіць і ці здольны ён прадставіць якую-колечы праграму папраўы? Адказ зноў ад‘емны. Паводле праграмы, якую высоўвае найпаважнейшая ўрадавая група — гэт. ёсьць Н. Д., якая заняла скарб, урад дамагацца будзе ад Сойму **новых далека ідучых паўномоцтваў, каб не кіравацца істнуючымі ўставамі**; далей, урад мае паводле гэтай праграмы ўзяць загранічную пазыку—пад залог дзяржаўных манаполяў. Адным словам Урад Хіена-Пяста-П. П. С-аў будзе прадаўжаць тое, што было найгоршым і найбрутальнейшым—капіталістычным у пачынах ураду Грабскага, ураду згубы Польшчы і ўсіх людзей працы.

Так, значыць—незалежна ад дэкорацыйнага ўдзелу ў урадзе двох П. П. С-аў — урад гэты будзе вясьці капіталістычную палітыку, палітыку далейшага абцяжваньня селяніна і рабочага падаткамі — пасярэднімі і манаполямі, якія забярэ ў арэнду—залог і прадаваць усёмагутнаму сёньня загранічнаму капіталу.

А сяляне, работнікі і працоўныя інтэлігэнты— ўсіх нацыянальнасьцяў, пражываючых у Польшчы — і далей будуць сьпіхацца ў пропасьць гаспадарчага развалу на дно магчымага пражыцьця, на дно паніжэньня.

Адзінаю магчымаю дарогаю выхаду з гэтага палажэньня, адзінаю дарогаю, вядучаю да вызваленьня, як працоўных масаў у Польшчы, так і народаў паняволеных Польшчаю—ёсьць упорная барацьба з урадам буржуазіі і яе памоцнікаў — барацьба за работніцка-сялянскую ўладу.

Толькі гэтакі ўрад можа вывясьці Польшчу з багна крызісу і паніжэньня, ён-жа адчыніць дарогу да вольнасьці для беларускага і украінскага народу.

З Урадам Хіена-Пяста-П. П. С. будзем змагацца і разам з пралетарыятам усяе Польшчы змагацца будзем за ўладу сялян і работнікаў, за сацыяльную і нацыянальную свабоду для заходняй Беларусі і Украіны.

Будзем гадасаваць проці Ураду.

# Інтэрпэляцыя № 7

паслоў Клюбу Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады і тав. да пана Міністра ўнутраных спраў — у справе масавых бязпраўных арыштаў у Заходняй Беларусі.

Хвалі рэпрэсіяў, што няўстанна наведваюць Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну, набіраюць што-раз то гвалтаўнейшага размаху.

Беларуская і украінская люднасьць знаходзіцца ў няўстанным хвараблівым страху, баючыся наглых і неспадзеваных арыштаў і страшучыся пытак зьдзекаў, якія праходзяць арыштаваныя.

Польская паліцыя сыстэматычна, што пэўны час, на падставе правакацыйных паказаньняў агэнтаў дэфэнзывы, або кіруючыся загадам, атрыманым ад адміністрацыйных уладаў, валіць масаю на вёску і з найдалёкшых навет мясцоў вырывае беларусаў і ўкраінцаў, укідаючых іх у вастрогі.

Сотні гаспадарак застаюцца такім чынам без апекі, а жонкі і дзеці безпадстаўна арыштаваных сялян церпяць голад.

Да пасольскага Клюбу Беларускай Салянска-Работніцкай Грамады няўстанна прыплываюць скаргі ад родных нявінна пасаджаных асоб.

Дня 2 кастрычніка сёл. году паліцыя зрабіла арышты на ўсім абшары Слонімскаго пав.

Падаем тут лік апошніх ахвяраў бязпраўя Наваградзкай паліцыі—разам 21 асоба.

Жыхары в. Зьвераўшчызна, Малчадзкай гм., Слонімскага пав. Наваградзк. ваяв.: 1) Чарнеўскі Тамаш, 2) Пугач Панас, 3) Змойдзяк Сардзей, 4) Макарчук Мікалай, 5) Пугач Міхась, 6) Чорнагрэбель Тодар.

Жыхары в. Івашковічы, Малчадзкае гм. Слонімскага пав., Навагр. ваяв. 1) Міхальчук Янка, 2) Пархановіч Васіль, 3) Пархановіч Марко, 4) Шостук Лявонь, 5) Сэрмон Мікалай, 6) Афанасік Янка.

Жыхары в. Сьвіраны, Малчадзкай гм., Слонімскага пав., Навагр. в. 1) Дзерман Кастуль, 2) Руды Сымон, 3) Жыдаль Янка, 4) Дзерман Аляксандар, 5) Кароліка Мікалай, 6) Дзерман Янка, 7) Чэрнік Мікалай, 8) Дзерман Кастуль, 9) Дзерман Мікалай.

Падаючы гэтае да ведама п. Міністра Унутраных Спраў мы Паслы Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады пытаем.

1) Ці вышэй вымененыя нявінна пасаджаныя яляне, будуць зараз-жа звольнены?

2) Ці хоць раз у канцы канцоў п. Міністар паложыць канец каленіяльнай нідзе нячутай самаволі польскай адміністрацыі ў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне?

Варшава, 25 лістапада 1925 г.

Інтэрпэлянты.

# Інтэрпэляцыя № 11

## паслоў Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады да п. Міністра Унутраных Спраў і п. Міністра Справядлівасьці ў справе сталага перасьледаваньня Беларускае прэсы.

Як толькі кончылася гэт. званае „Вольнасьць прэсы", уведзеная ў часе выбараў да Сойму і Сэнату, распачалася сыстэматычнае перасьледаваньне беларускае прэсы. Надзвычайна жорсткаму і вострасму перасьледаваньню падлягае беларуская прэса, выходзячая ў Вільні.

Камісар Ураду на м. Вільню п. Вімбор, хочучы пазбыцца незалежнай беларускай прэсы, прамянюючай з Вільна на ўвесь абшар беларускіх зямель, знаходзячыхся ў граніцах Польскае Рэспублікі, сыстэматычна канфіскуе беларускія газэты. Ясна—наражае гэта ўспомненае незалежнае беларускае выдавецтва на непамерныя матар'яльныя страты.

Каб ня быць голаслоўнымі, далучаем тут сьпісок беларускіх газэт за час ад сьнежня 1922 г. да 15 лістапада 1925 г., выходзячых у Заходняй Беларусі, падаючы лік і сканфіскаваныя №№ кожнай газэты і, таксама, паказваючы як доўга яна магла выхадзіць.

Сьпісок гэты выразна ілюструе, як выглядае ў Польшчы „вольнасьць прэсы", а пераважна ў адносінах да незалежнай беларускай думкі.

### Сьпісок.

| Парадк. № | Назоу газэты | Калі пачала выхадзіць | Якія №№ былі сканфіскаваныя | Пасля якога № закрыта |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Наша Будучына | 8.XII.1922 г. | 2 —1922 г.<br>2(5) і 6(9)—1923 г. | 9 |
| 2 | Новае Жыцьцё | 3.XII.23 | 4, 8, 10, 13. | 13 |
| 3 | Нашае Жыцьцё | травень 1923 | 1. | 6 |
| 4 | Наш Шлях | 5.VI.23 | 1, 2, 7, 17. | 25 |
| 5 | Вольны Сьцяг | 26.VIII.23 | 1, 5. 16, 17. | 21 |
| 6 | Воля Народу | 21.X.23 | — | 2 |
| 7 | Змаганьне | 28.X.23 | 15 —1923 г.<br>1 (23) —1924 г. | 31 |
| 8 | Голас Беларуса | 14.II.24 | 14, 15, 19, 21. | 21 |
| 9 | Сын Беларуса | 18.V.24 | 15, 17. 23, 28, 40. | 42 |
| 10 | Сялянская Праўда | 28.IX.24 | 13, 17, 21, 34. | 34 |
| 11 | Беларуская Доля | 2.I 1925 | 9, 27, 35. | 35 |
| 12 | Іскра | 10.XI.25 | 2, 3. | 7 |
| 13 | Жыцьцё Беларуса | 19.VIII.25 | 2, 7, 14, 15, 19. | 20 |
| 14 | Саха | травень 1923 | 1. | 1 |
| 15 | Krynica | — | 5 —1923 г.<br>9,14,28,33—1924 г.<br>20,22,23 —1925 г. | 33 |

Каб даць магчымасьць падпішчыку карыстацца інфармацыямі аб жыцьці заграніцаю і ў краі, выдаваліся ў перарыве паміж зачыненьнем аднае газэты і атрыманьнем канцэсіі на другую—аднаднёўкі,

Ужо сам факт пераходу газэтнага выдавецтва на сыстэму аднаднёвак сьведчыць аб ненармальных і забойчых варунках існаваньня беларускае прэсы.

У працягу 1923 і 1924 г. да паловы жніўня 1925 г. было выдана ў Вільні цэлы рад беларускіх аднаднёвак, а іменна: 1) Беларускі Гоман, 2) Крык Праўды, 3) У пятыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, 4) Беларуская Доля, 5) Зарава, 6) Нашае Новае Жыцьцё, 7) Падняты Сьцяг, 8) Сьцяг, 9) Сьцяг Народу, 10) Нашае Змаганьне, 11) Сьцяг Волі, 12) Праўда, 13) Каляда. 14) Новагоднік, 15) Новы Шлях, 16) Зарніца, 17) Загон, 18) Жыцьцё вёскі, 19) Думка Беларуса, 20) Зорка Беларуса, 21) Селянін, 22) Беларускі Селянін, 23) Іскра, 24) Рэха і іншыя.

Пяць з ліку гэтых аднаднёвак былі сканфіскаваны. Трэба падчыркнуць характэрны факт, што аднаднёўка „Каляда", канфіскаты якой суд выняткова не зацьвердзіў, была зьвернена рэдактару толькі пасьля... двох месяцаў.

Звычайны парадак нагляду прэсавага аддзелу за друкуемымі пэрыодычнымі газэтамі, згодна „Przepisom prasowym" гэткі: Надрукаваныя першыя 10 экзэмп. газэты адсылаюцца прэсаваму аддзелу, які ў працягу 1 гадзіны павінен вырашыць сканфіскаваць гэты нумар, ці не. Калі ў працягу гадзіны газэта не канфіскуецца, дык яе згодна з „Przepisami prasow." можна выпускаць у сьвет.

Але прэсавы аддзел пры Камісарыяце Ураду на м. Вільню ніколі не паведамляе ані рэдакцыю, ані друкарню, дзе на машыне чакае яго рашэньня ўвесь наклад газэты ў працягу гадзіны — ў часе паказаным у „Przepisach". І гэта з тою мэтаю, каб наразіць выдавецтва на страты, каб гэтым забіць зненавідзеную польскаю уладаю, а пераважна Віленскім Камісарам Ураду — беларускую прэсу. І толькі на другі дзень пасьля надрукаваньня газэты паведамляецца паліцыяй аб канфіскаце № газэты, робіцца обыск у друкарні, у рэдакцыі і ў канцылярыі, скуль і забіраюцца ўсе арыштаваныя ў экспэдыцыі экзэмпляры газэты, на якіх часта ўжо бываюць наклееныя паштовыя маркі.

Самаволя Камісара Ураду даходзіць да таго, што па яго загаду газэта бывае затрымана на некалькі гадзін у цэнтральным упраўленьні паштовым м. Вільні і толькі рассылаюць яе на правінцыю па атрыманьні спэцыяльнага дазволу Камісара Ураду.

А бывае й гэтак, што ўвечары другога дня па надрукаваньні газэты канфіскуецца ўся экспэдыцыя беларускай газэты ў цэнтральным паштовым упраўленьні, як гэта было з № 1 газэты „Наш „Шлях" з дня 5. VI. 23 г.; тут Камісар Ураду нават не хацеў паведаміць аб гэтым рэдактара, або адміністрацыю газэты.

Ані ў адным выпадку ў справе тых 55 сканфіскаваных нумароў газэт і аднаднёвак, што пералічылі мы вышэй, рашэньне Камісара Ураду ня было абвешчана ў часе, паказаным у афіцыяльных „Przepisach prasowych".

Гэтакае нявыконваньне Камісарам Ураду абавязваючых яго „Przepisów prasowych" наразіла рэдактароў-выдаўцоў беларускіх газэт на грашавыя страты, выносячыя за працяг гэтых $2^1/_2$ гадоў болей 8.000 злотых.

Каб стэрарызаваць пранумэратароў беларускіх газэт на правінцыі і адбіць у яго ахвоту да чытаньня апазыцыйнае беларускае газэты, устанаўляецца ўладаю сьлежка за пранумэратарамі, робяцца часта рэвізіі нібы для выкрыцьця нелегальных газэт і забіраюцца паліцыяй ад людзей на вёсках нават старыя №№ беларускіх зусім легальных газэт

Што канфіскаты беларускіх газэт часта бываюць беспадстаўнымі, таму прыкладам можа служыць канфіската № 1 газэты „Вольны Сьцяг" з дня 26. VIII. 23 г. за перадрук „Дзесяць запаведзяў" з № 4 журнала „Нова Культура", які выхадзіў у Варшаве, дзе гэты артыкул ня быў сканфіскаваны.

Гэтая сыстэма тым болей яшчэ зьяўляецца цяжкай, што Камісарыят Ураду, хочучы паказаць беларускай люднасьці і рэдактаром беларускай прэсы, як далёка сягае яго ўлада, самаволя і безадказнасьць, наражае гэтых рэдактароў і выдаўцоў на далейшыя яшчэ матэр'яльныя страты, — ня кажучы ім ніколі адразу пры канфіскацыі, за якія артыкулы газэта сканфіскавана, а гэта з таею мэтаю, каб у друкарні разабралі ўвесь наклад газэты і каб пасьля канфіскацыі газэты за якісь-ці адзін артыкул, другі яе наклад быў роблены нанова, што зьвязана з новымі вялікімі выдаткамі. Гэтыя страты для 50 сканфіскаваных газэт выносяць новыя 5.000 злотых.

У другім выпадку, прэсавы аддзел выкручваецца нявыразна, „што яшчэ дакладна ня ведама, за якія артыкулы газэта сканфіскавана", каб толькі адцягнуць яшчэ на якісь час выясьненьне справы і давясьці выдавецтва да матэр'яльнага разарэньня.

Часамі зноў без цэрамоніі кажуць рэдактару, які зьяўляецца ў прэсавы аддзел, што сканфіскаваны ўвесь наклад, як гэта было сказана грам. Мікалаю Шыле ў справе канфіскацыі № 15 газэты „Сын Беларуса", хоць там былі найнявіньнейшыя хронікёрскія зацемкі.

Самаволя пры канфіскацыях і зачыненьні беларускіх газэт у Вільні даходзіць да тае ступені, што адны газэты зачыняюцца (як гэта відаць з вышай паданага сьпісу) пасьля 3—4 канфіскацыяў, другія — як „Нашае Жыцьцё" — на № 6 пасьля аднае толькі канфіскаты № 1; „Іскра" зачынена была на № 7 пасьля канфіскацыі №№ 2 і 3, а „Саха" зачынена адразу на № 1. № 28 газэты „Сын Беларуса" быў сканфіскаваны за цытаваньне —ў рэцэнзіі збору паэзіі Сваяка „Мая Ліра" — вершаў з тае кніжачкі, тады як сама кніжачка, выданая тры тыдні перад тым, сканфіскавана ня была.

Але не даволі гэтага. Перадрук у другім накладзе газэты артыкулаў нескафінскаваных у першым накладзе газэты, часта нацягае канфіскацыі другога накладу і то толькі з тае прычыны, што „не дагледжена было праступленьне гэтага артыкулу ў першым накладзе.

Так № 15 газэты „Жыцьцё Беларуса" з дня 28.X. сёлетн. году быў сканфіскаваны за артыкул „Апэляцыі Украінцаў да сусьветнае апініі", які, будучы надрукаваны ў папярэднім № 14, ня быў залічаны да артыкулаў, маючых у сабе рысы праступленьня.

Далейшым спосабам перасьледаваньня беларускае прэсы зьяўляецца тэрарызаваньне падпішчыкаў нашых газэт. Гэтак напрыклад, віленская паліцыя 20. V. 25 г. зрабіла пасля канфіскаты газэты „Беларуская Доля" вобыск у рэдакцыі гэтае газэты і зусім бяспраўна забрала ўсе адрэсы падпішчыкаў.

Да чаго даходзіць самаволя органаў бясьпечнасьці м. Вільні ў адносінах да рэдактароў беларускіх газэт, аб гэтым выразна паказвае наступны факт.

20. V. 25 году пры канфіскацыі памянёнага № 35 „Беларускае Долі" рэдактар яе Антон Пракапеня быў арыштаваны ў памяшчэньні рэдакцыі і адведзены нібы для „zbadania" ў палітычную паліцыю. Там адзін з агэнтаў палітычнай паліцыі кінуўся на рэдактара і ўдэрыў яго па твару, крыкнуўшы: Ах ты „psia krew", бальшавік, ужо 35-ты нумар выдаеш?... Пасля гэтага дзікага ня маючага прыкладу ўва ўсім культурным сьвеце, — гвалту над рэдактарам легальнай газэты, Антон Пракапеня адразу быў звольнены з-пад арышту, пры чым ніякіх „badań" не рабілі.

Служыць гэта выразным доказам таго, што дэфэнзыва сьцягнула змагара за вольнае беларускае слова да сябе толькі з таею мэтаю, каб зьняважыць яго і пабіць.

Найчасьцей падлягалі канфіскацыям тыя нумары беларускіх газэт, у якіх былі зьмешчаны інтэрпэляцыі і прамовы беларускіх паслоў у Польскім Сойме, выяўляючыя перад сьветам гвалты польскай паліцыі і адміністрацыі, над беларускай людпасьцяй, выкрываючыя без прастанку робленыя ей крыўды ў розных кутках беларускіх зямель, падлягаючых Польшчы, або крытыкуючыя дзяржаўную ўладу, ці то ў цэнтры ці то на гэт. зв. „Крэсах — у галіне адміністрацыі, школьніцтва і гэт. д.

Зразумелая рэч, што трудна сканфіскаваць газэту за прамову, не падлягаючую канфіскацыі або інтэрпэляцыю, хоць і гэтакія факты здараюцца і што раз то часьцей) —значыць шукаюць іншых прычынаў і канфіскуецца за якіясь нявінныя зацемкі, або карэспандэнцыі, абы толькі не дапускаць да чытаючых масаў зьненавідзеную Камісар'ятам ураду беларускую газэту.

Па большай часьці суд адпраўдываў рэдактараў, бо не знаходзіў праступных рысаў у зьмесьце канфіскованых артыкулаў або карэспандэнцыі.

Гэтак Акружны Суд у Вільне апраўдаў Антона Войціка, рэдактара „Сялянскай Праўды", абвінавачванага з § 129 К. К за зьмешчаную ў № 13 гэтае газэты перадавіцу пад загалоўкам „Першы Крок".

10. X. 25 г. міравы судзьдзя ў Вільні апраўдаў рэдактара „Сына Беларуса" і „Голаса Беларуса" — Мікалая Шыла з 11 (адзінаццаць) артыкулаў з ліку 14, за якія былі сканфіскаваны гэтыя газэты, а засудзіў яго толькі за тры артыкулы і то агулам на 1 месяц арышту, або на сто злотых кары грашыма.

Служыць гэта як найвыразнейшым даказам, як далёка бяспраўнымі зьяўляюцца канфіскацыі нашых газэтаў, — калі нават урадавая польская справядлівасьць — варажая работніцка-сялянскаму беларускаму народу — была змушана прызнаць іх беспадстаўнымі.

Апрача зьневажаньня і біцьця ворганамі публічнай бяспечнасьці рэдактароў легальных беларускіх газэт, як гэта было з рэдактарам Антонам Пракапенем, судовыя ворганы трымаюць рэдактароў беларускіх газэт у вастрозе па паўгода пад сьледствам, каб унемагчыміць ім далейшае рэдагаваньне, або выдаваньне беларускіх газэт, як гэта было з Антонам Войцікам, рэдактарам „Сялянскай Праўды" і з Мікалаем Шылам—рэдактарам „Сына Беларуса" і „Голаса Беларуса".

У гэтым сваім рэпрэсыйным запале судовыя ўлады ня лічацца ні з чым, а йдуць што-раз далей. Доказам гэтага зьяўляецца безцарамонная канфіскацыя пасольскіх інтэрпэляцыяў, забясьпечаных ад канфіскацыі, згодна з правам і традыцыяй, якую мелі шанаваць нават ц. к. Габсбурскай Манархіі, за сканфіскаваныя артыкулы.

Гэтае пацьвярджае, хоць-бы наступная заметка, узятая з эндэцкага „Dzien. Wileński" з дня 17. XI. 25 г. (№ 264).

**Канфіскацыя.** Дня 17. XI. адміністрацыйная ўлада сканфіскавала № 8 беларускае газэты пад назовам „Беларуская Крыніца". Канфіската зроблена з прычыны зьмяшчэньня другі раз верша пад загалоўкам „Званьніца ў Жодзішках", гэтым разам аднак як інтэрпэляцыя беларускіх паслоў, скіраваная да п. Міністра ўнутраных спраў.

Усё вышэй паказанае выразна сцьвярджае, што вольнасці прэсы для беларускага народу ў Польшчы — таксама ўрэшце як і для польскай работніцкай і сялянскай клясы—зусім няма.

Дасканальна разумеем, што поўную свабоду слова здабудзем разам з здбыцьцём поўнай вольнасьці нацыянальнай і сацыяльнай.

І ў гэтай засаднічай барацьбе за гэтае поўнае вызваленьне з-пад нацыянальнага ярма і сацыяльнага ўціску — бачым адзіную надзею на нашае вызваленьне.

Ужо нават сёньня былі-б рады мець ад п. п. Міністраў - Справядлівасьці і Унутраных спраў — адказ:

1) ці ўважаюць, што загарантаваная на паперы канстытуцыі (§ 105) вольнасьць прэсы, не абавязкавая ў адносінах да сялянскай і работніцкай, а таксама ў адносінах да народаў, падлягаючых Польшчы ?

2) Ці фактычна толькі ў Польшчы апазыцыйная прэса беспрастанна мае падлягаць бясприкладнай сыстэме рэпрэсыяў, тады як амаль што ня ўва ўсіх буржуазных дзяржавах Эўропы нават камуністычная партыя мае сваю легальную прэсу?

3) Ці дзеля гэтага маняцца п. п. Міністры загадаць падуладным ім адміністрацыйным органам, каб сьцісла прытрымоўваліся хоць тых скромных „Przepisów prasowych", якія сёньня істнуюць?

4) Ці маніцца выкараніць самаволю Камісара ўраду пры канфіскацыі беларускіх газэт.

5) Ці маняцца яны п. Вімбара, Камісара ураду, віноўнага ў вышэй паказаных надужыцьцях, звольніць ад займанага ім цяпер становішча?

Варшава, 9 сьнежня 1925.

Інтэрпэлянты.

Выдавец: Пасольскі Клюб Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады.

Друкарня Н. Левін і Сын Вільня, Нямецкая 22.